# Спісак беларускіх кніжак.

Ведаючы цану кнігі, найлепей прыслаць грошы наперад — гэтак таней каштуе перасылка.

(Кніжкі азначэные *біс* — выйшлі і лацінскімі і «рускімі» літэрамі.

## Навуковые даступные для усіх.

| | Цэна руб. кап. |
|---|---|
| біс Ян Баршчэўскі, першы беларускі пісьменнік. Біографічны нарыс Р. Земкевіча | — 20 |
| Praktyčnye rady ab harodnictwie | — 7 |
| Гутаркі аб небі і зямлі з рысункамі | — 15 |
| Цукер, В. Тройцы | — 3 |
| Гутаркі аб гаспадарцы | — 3 |
| Як ратаваць уздутую жывёлу | — 3 |
| Як бараніцца ад халеры | — 1 |
| Як рабіць добрые рамовые вульлі | — 5 |
| Зямельная справа у Новай Зэляндіі | — 6 |
| Кароткая гісторыя Беларусі—Власта | — 3 |
| Bł. Andrej Boboła mučynik | — 50 |
| Як выбіраць дэпутатоў у Гас. Думу | — 20 |
| На дарозе да новаго жыцьця. А. Новіны | — 2 |
| Alkahol | — 3 |
| Rady dla matak | — 3 |
| Św. Jozafat Kuncewič | — 3 |
| Naśto biełarusam gazety | — 10 |
| Колькі слоў аб дзявочай опратцы на Беларусі | — 3 |
| Pčalina—žywiołka małaja a karyšci daje mnoha | — 10 |
| Як багацеюць чэскіе селяне | — 30 |

## Гадавікі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Наша Ніва 1906 году | 1 р. — к. | Наша Ніва 1910 году | 3 р. — к. |
| „ „ 1907 „ | 15 р. — к. | „ „ 1911 „ | 3 р. — к. |
| „ „ 1908 „ | 5 р. — к. | „ „ 1912 „ | 5 р. — к. |
| „ „ 1909 „ | 3 р. — к. | „ „ 1913 „ | 2 р. 50 к. |

Календары 1910, 1911, 1912, 1913, 1914 г. па 15 к., 1915 г. па 20 кап. 1916 г. па 15 кап., 1917 г. па 20 кап.

## Повесьці і апаведаньня прозай.

| | |
|---|---|
| Гэдалі, Э. Ожэшко | — 6 |
| Казка аб ваднэ | — 3 |
| Архіп і Лявонка,—М. Горкаго | — 8 |
| У дому лепей.—Новіча | — 4 |
| „Маладая Беларусь". Сэрыя I-я сшытак I-шы | 1 — |
| „Маладая Беларусь" „ „ сшыт. II-гі | 1 — |
| Зборнік «Нашай Нівы» № 1 | — 5 |
| Зборнік «Нашай Нівы» № 2 | — 15 |
| Амэрыканец—А. Новіча | — 20 |
| Бярозка і др.—Ядвігіна Ш. | — 10 |
| Беларускіе казкі | — 5 |
| Хілібэртава пакута, Амфітэатрова | — 5 |
| Апаведаньня—Тараса Гушчы | — 10 |
| Abrazki — Zmitraka Biaduli | — 15 |
| „Маладая Беларусь". Сэр. I-шая. Сшытак 3 | 1 — |
| Колядная пісанка 1913 г. | — 10 |
| Нёмнаў дар—Тараса Гушчы | — 6 |
| Тоўстае палена — Тараса Гушчы | — 5 |
| Апаведаньня — Галубка | — 6 |
| Праклёнышы — Л. Гвозда | — 6 |
| Аб чым шэпацелі лісьця | — 6 |
| Стражнік.—Сцёпкі Бірыло | — 10 |
| Васількі. Зборнік апаведаньнеў Ядвігіна Ш. | — 30 |
| Родные зьявы. Зборнік апаведаньнеў. Т. Гушчы | — 60 |
| Ня ўсе-ж разам ягомосьці!—Апаведаньне Лесіка | — 5 |
| Сыгнал. Апаведаньне Гаршына | — 5 |
| Як м бяздольны. Петры Беларуса | — 10 |
| Рунь. Зборнік апаведаньнеў Максіма Гарэцкаго | — 40 |
| Вялікодная пісанка. Зборнік | — 30 |

## Беларускіе тэатральные творы.

| | |
|---|---|
| Хам. Абраз у 4 х дзеях, Э. Ожэшко | — 70 |
| Сватаньне. Жарцік у 1-й дзеі, Чэхова | — 25 |
| Мядзьведзь. Жарцік у 1-й дзеі, А. Чэхова | — 30 |
| Міхалка. Камэдыя у 1 дзеі | — 35 |
| Па рэвізіі. Абраз у 1 дзеі, Кропіўніцкаго | — 35 |
| Пашыліся ў дурні. Жарт Кропіўніцкаго у 3-х дзеях | — 60 |
| Як яны жаніліся. Жарт у 1 дзеі, А. Володського | — 30 |
| «Паўлінка», камэдыя у 2 дзеях, Я. Купалы | — 75 |
| Снатворны мак. Сцэна для дзіцячых тэатроў | — 10 |
| Betlejka | — 5 |

## Беларускіе музыкальные творы.

| | |
|---|---|
| Беларускі песеньнік з нотамі | — 15 |
| Biełaruskie pieśni z notami I časć. Sabrał A. Hrynewič | — 30 |
| Biełaruskie pieśni z notami II časć. Sabrał A. Hrynewič i A. Ziaziula | — 25 |
| Беларускіе песьні разложэные на 4 голасы; адна песьня у 4 галасох 10 к., кожны голас | — 3 |
| Чамуж мне ня пець. Ой ляцелі гусі. Дый кудыж ты. Ой пайду я лугам. Ды ўжо сонейка. | |
| біс А хто там ідзе? Я. Купалы, муз. Рогоўскаго | — 10 |

## III. Вершы.

| | |
|---|---|
| Вязанка, Я. Лучыны | — 4 |
| Тарас на Парнасе | — 5 |
| Дзэд Завала, Ядвігіна Ш. | — 5 |
| Адвечная песьня, абраз у XII зьявах Я. Купалы | — 20 |
| Песьні жальбы, Якуба Коласа | — 30 |
| Hušlar, zbornik wierszoŭ J. Kupały | — 50 |
| Кацярына. Т. Шэвчэнка | — 10 |
| Жалейка. Зборнік вершоў, Я. Купалы | — 50 |
| Pan Tadeusz, A. Mickiewiča, pierekł. Marcinkiewiča | — 25 |
| Hapon, apowieść Marcinkiewiča | — 15 |
| Wečarnicy, apowieści Marcinkiewiča | — 15 |
| Ščeroŭskije dažynki, Kupała, Marcinkewiča | — 20 |
| Dudka biełaruskaja, M. Buračka | — 15 |
| Batrak. Jak Jurka zabahaceŭ.—Jakuba Kołasa | — 10 |
| Pieśni —Ciszki Hartnaho | — 15 |
| Сон на кургане—Янкі Купалы | — 50 |
| Čyžyk Biełaruski, Haljasza Leŭčyka | — 30 |
| Шляхам жыцьця—Я. Купалы, с партрэтам аўтора | — 25 |
| Вянок, зборнік вершоў М. Багдановіча | — 50 |
| Apawiedańnia i lehiendy wieršam | — 25 |
| Kaniyčka. Bez aprawy 10 k., u aprawe | — 15 |
| Прапаў чэлавек і др. Якуба Коласа | — 6 |
| Z rodnaho zahonu— A. Ziaziuli | — 5 |
| Курганная кветка. Зборнік паэзій К. Буйло | — 25 |

**Вільня, Завальная 7. Беларуская Кнігарня.**

Прысылаючы грошы почтай трэба адрасаваць так: **Wilnia, Wahlstrasse 7, Weisruthenische Buchhandlung, W. Lastowski.**



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей